# СА СВЯТАМ, ДАРАГІЯ ЖАНЧЫНЫ!

**Сёньняшні нумар нашай газеты прысвечаны Вам — нашым каханым, маці, сёстрам і нястомным працаўніцам. Мы пастараліся напісаць і пра вашу прыгажосць, і пра радасці, і пра засмучэнні, і пра боль, бо жыццё шматграннае...**


# Газета для вас








ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 9 (220) 4 — 10 сакавіка 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.


*АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

## ЗАРОБАК АБЯЦАЮЦЬ ВЫПЛАЦІЦЬ...

***— "Газета для вас"? Тэлефануюць вам рабочыя Целяханскага ўчастка Івацэвіцкага леспрамгаса. Сёння ўжо 1 сакавіка, а свой заробак за снежань 1999 г. мы яшчэ не атрымалі. Купіць неабходнае няма за што, а калі ўлічваць тое, што цэны на тыя ж прадукты растуць пастаянна, то наш нявыплачаны заробак усё зніжаецца і зніжаецца. Пацікаўцеся, калі ласка, у нашай адміністрацыі наконт таго, калі мы атрымаем наш заробак хоць бы за снежань.***

***Абрамчук, Канановіч,***
***Афанасовіч і іншыя рабочыя***
***Целяханскага ўчастка***
***Івацэвіцкага леспрамгаса.***

На пытанне нашых чытачоў мы папрасілі адказаць Эму Эдмундаўну МАКАРАВУ, начальніка планавага аддзела Івацэвіцкага леспрамгаса:

— Цудоўна разумеем заклапочанасць нашых рабочых нявыплатай і робім усё магчымае, каб гэтыя выплаты былі зроблены ў тэрмін. Сёння, 1 сакавіка, афармляем крэдыт у банку, а заўтра чакаем паступлення грашовых сродкаў.

Такім чынам, на працягу бліжэйшага тыдня заробак за снежань рабочым Целяханскага ўчастка будзе выплачаны.

***АД РЭДАКЦЫІ. Цяжка жыць у дзяржаве, дзе не плоцяць своечасова зарплату. І яшчэ цяжэй ад таго, што адказ на пытанне, калі ж, нарэшце, выплацяць, трэба атрымліваць праз газету.***

*4 САКАВІКА — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫІ*



## Ветэран аддзела

***Аляксандр Іванавіч Глушэня (на здымку) — ветэран міліцыі. З 1973 года ён пачаў службу ў органах Міністэрства ўнутраных спраў. Быў участковым упаўнаважаным, працаваў у аддзяленні па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. 13 гадоў ужо ў крымінальным вышуку. Апошнія сем гадоў узначальвае аддзяленне крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.***

***За ўзорную службу, высокія паказчыкі ў міліцэйскай дзейнасці ў лістападзе мінулага года загадам міністра ўнутраных спраў рэспублікі Аляксандру Іванавічу Глушэні прысвоена званне падпалкоўніка міліцыі. Узнагарода заслужаная, бо дзякуючы працы Аляксандра Іванавіча нам жывецца спакойней, а ў горадзе — менш злодзеяў, махінатараў і іншых аматараў лёгкага хлеба.***

*Фота Аляксея ГАНЧУКА.*

## За газ разлічымся токам

**БЕЛААЗЁРСК.** Сумесная пастанова Савета Міністраў РБ і Нацыянальнага банка краіны прадугледжвае, што з 30 чэрвеня 2000 года Беларусь пачне экспарт электраэнергіі ў Польшчу. Найбольшую зацікаўленасць у ажыццяўленні гэтага праекта праяўляе кіраўніцтва расійскага акцыянернага таварыства "Газпрам", якому Беларусь завінавацiла каля 160 мільёнаў долараў за пастаўлены прыродны газ. Мяркуецца, што "Газпрам" будзе пастаўляць на Бярозаўскую ГРЭС прыродны газ звыш устаноўленай раней квоты, і дзякуючы гэтаму выпрацаваная "дадатковая" электраэнергія пойдзе на экспарт за Буг. Частка выручкі ў замежнай валюце ад гэтага экспарту будзе выкарыстана на пагашэнне запазычанасці перад "Газпрамам".

*Алесь САШЫН.*

## Госця з Нарвегіі

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У раёне пабывала пані Вальшытадшве Шванхельд, жыхарка нарвежскага горада Скатваль. Яна працуе намеснікам дырэктара адной з гарадскіх школ. Адначасова займаецца дабрачыннай дзейнасцю. На Беларусі яна ўжо 17-ты раз, а вось Целяханы наведала другі. Госцю цікавіла беларуская глыбінка, жыццё простых людзей. У Горталі, напрыклад, яна аказала грашовую дапамогу маладому інваліду. У Целяханскай школе-інтэрнаце таксама пакінула пэўныя сродкі. За іх ужо набылі для школы два каляровыя тэлевізары, магнітафон, заказалі таксама спецыяльную музычную апаратуру.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*



*Моўчкі ўскінула*
*вочы,*
*І замёр я на міг.*
*Сумны позірк дзявочы*
*У душу мне пранік.*

*І не сніў, і не думаў,*
*Што спаткаю калі*
*Столькі светлага*
*суму*
*На вясновай зямлі!*

*Ты, адзіная ў свеце,*
*Лёс мой, зорка мая,*
*Аб якой аж да смерці*
*Шкадаваць буду я.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ.*

## Інгібітар вірусаў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб патэнтах на вынаходствы і карысныя мадэлі" выдадзены патэнт на вынаходства "Інгібітар вірусаў" жыхару Івацэвіцкага раёна Уладзіміру Міхайлавічу Рымшу. Вынаходства заключаецца ў выкарыстанні ўжо вядомага ў рэспубліцы збору лекавых траў "Фітагор" па новаму прызначэнню, а менавіта па пераадоленні ўстойлівасці віруса грыпу да дзеяння рамантадзіна і віруса герпеса да дзеяння ацыклавіра і расшырэнне арсеналу прэпаратаў, якія валодаюць супрацьвіруснымі ўласцівасцямі.

*Наталля КАПЫЦІЧ.*

## Пасмяёмся разам з...

*з педагогам-арганізатарам Магіліцкай базавай школы Івацэвіцкага раёна Святланай Васільеўнай Гладун:*

Сустрэліся дзве сяброўкі.

— Ты ведаеш, — кажа адна, — я ўпэўнена, што ўсе мужчыны — дурні.

— Няпраўда, — запярэчыла другая, — сярод іх таксама сустракаюцца халасцякі.



## Шаноўныя чытачы!

25 сакавіка заканчваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 2000 года. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Заставайцеся з незалежнай "Газетай для вас"!

**КОШТ ПАДПІСКІ: індывідуальнай** (індэкс 63834): на адзін месяц — 190 рублёў, на квартал — 570 руб.; **ведамаснай** (індэкс 64145): на адзін месяц — 800 рублёў, на квартал — 2.400 руб.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Крестьянин не торжествует

***Катастрофической назвал нынешнюю ситуацию в сельском хозяйстве страны председатель агропромышленной комиссии Национального исполнительного комитета (НИК - "теневое" правительство Беларуси) Иван Никитченко на очередном заседании НИК.***

Свое мнение член-корреспондент Национальной академии наук Беларуси обосновал конкретными цифрами. Например, урожайность зерна в 1999 году составила всего 14,5 центнера с гектара, что соответствует уровню 1966 года. Урожайность льна упала до уровня 1949 года. Корнеплодов в минувшем году было собрано в два раза меньше, чем в 1968 году. Заметно сокращается и поголовье скота: коров осталось всего 70 процентов от уровня 1995 года. Кроме того, в прошлом году — впервые за многие годы — уменьшилось количество птицы. Неудивительно, что и куриных яиц в 1999 году получили 2 миллиарда 170 миллионов штук при необходимости в 2 миллиарда 800 миллионов.

## Обещает быть весна сложной

***Посевная кампания в Брестской области в этом году будет довольно сложной, считают в Брестском областном комитете сельского хозяйства и продовольствия.***

Для успешного проведения посевной, необходимо 70 миллиардов <новых> рублей. Авансы и прочие имеющиеся средства составляют лишь немногим более 60 процентов от этой суммы. Непростая ситуация сложилась и с запасами топлива: на сегодняшний день они составляют лишь 65 процентов от запасов минувшего года. Для нормальной работы области в условиях весенне-полевых работ нужно 45 тысяч тонн солярки и 18 тысяч тонн бензина. Из-за существующих проблем в этом году на поля области вывезено меньше, чем в минувшем году, органических удобрений.

Еще одна проблема — нехватка механизаторов. В колхозах и совхозах области 2,5 тысячи вакансий трактористов. Чтобы справиться с посевной, для работы в хозяйствах будут привлекаться трактористы городских предприятий, учащиеся профтехучилищ и техникумов.

## Против войны в Чечне

***29 февраля группа граждан подала в Минский горисполком заявку о проведении у посольства Российской Федерации в Минске пикетов против войны России в Чечне.***

Акции планируется провести 17 и 18 марта с 14 до 16 часов у здания посольства - на перекрестке улиц Коммунистической и Старовиленской в Минске. Количество участников - до 40 человек. Пикеты пройдут под лозунгами "Нет войне в Чечне!", "Нет геноциду чеченского народа!", "Остановить российскую агрессию!"

## За климат доверия

***"Никакой диалог не может быть основан на ультимативных условиях и диктате одной из сторон", — говорится в специальном заявлении участников заседания Консультационного совета оппозиционных политических партий, которое состоялось в Минске 29 февраля.***

В то же время авторы заявления подтверждают готовность оппозиционных партий к переговорам с властями "в формате, согласованном в 1999 году при посредничестве ОБСЕ, чтобы помочь обществу преодолеть тяжелый политический кризис". В заявлении напоминается, что главной целью переговоров должно стать решение следующих вопросов: пересмотр полномочий парламента для обеспечения разделения властей и пересмотр избирательного законодательства для обеспечения демократических выборов.

Участники заседания выступают за климат доверия, который является нормой для любого демократического общества. "Свободный обмен мнениями представителей различных общественно-политических объединений в СМИ, на митингах и встречах должен стать нормой и в Беларуси", — считают представители Консультативного совета оппозиционных политических партий.

***(БелаПАН).***





ЗВАРОТ

## Заявім усяму свету, што суверэнітэт і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца для ўсіх нас найвышэйшымі каштоўнасцямі

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Беларусі!

На стыку тысячагоддзяў для нашай Бацькаўшчыны надышоў час, калі вырашаецца лёс не толькі сённяшніх пакаленняў, але і нашчадкаў. Вырашаецца пытанне: ці захавае Беларусь магчымасць стаць вольнай заможнай дзяржавай ці будзе паступовa канаць, аддаўшы сваю долю ў чужыя рукі. Мы апынуліся на гістарычнай мяжы, за якой — нацыянальная нябытнасць.

Тыя, хто імкнецца зліквідаваць нашу дзяржаўнасць, бессаромна спасылаюцца на ідэі інтэграцыі і грамадскую думку. Пад хісткай заслонай хлусні і фальсіфікацый яны рыхтуюць здачу суверэнітэту краіны, інкарпарацыю яе ў новую агрэсіўную імперыю. Гэты згубны здрадніцкі працэс неабходна рашуча спыніць. Дзеля гэтага мы звяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановай правесці ў 2000 годзе Усебеларускі з'езд.

Мэта яго — заявіць усяму свету, што дзяржаўнасць і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца для ўсіх нас вышэйшымі каштоўнасцямі, што мы ніколі не дазволім ад нашага імя гандляваць Радзімай. Мы хочам і будзем сцвярджаць працаю і законнасцю сваю роўнасць між цывілізаваных, дэмакратычных народаў, сябруючы і супрацоўнічаючы з імі, уносячы свой непаўторны ўклад у развіццё прагрэсу.

Мы заклікаем неадкладна стварыць аргкамітэт Усебеларускага з'езда і спадзяёмся, што наша ініцыятыва будзе падтрымана ўсімі здаровымі сіламі грамадства.

Калі трэба бараніць незалежнасць роднай дзяржавы, павінны быць адсунуты ўбок палітычныя рознагалоссі, забыты асабістыя крыўды. Разам мы здолеем захаваць сваю краіну.

Жыве Беларусь!

**Радзім Гарэцкі; Рыгор Барадулін; Карлас Шэрман; Генадзь Бураўкін; Янка Брыль; Стэфанія Станюта; Ніл Гілевіч; Уладзімір Арлоў; Аляксей Дудараў; Віктар Дашук; Віктар Скарабагатаў; Мікола Крукоўскі; Аляксандр Старыкевіч; Таццяна Процька; Аляксандр Патупа.**

*Збор подпісаў працягваецца.*

("Народная воля" ад 25 лютага 2000 года).

КРЫМІНАЛ

## Гэтае дзіўнае слова — гуманізм

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Выязная калегія Брэсцкага абласнога суда закончыла разгляд справы па абвінавачванні Сяргея Літоўкі.

Гэты 27-гадовы мужчына падчас знаходжання ў калоніі-пасяленні працаваў у вёсцы Лазаўцы. Тут ён знайшоў сваю ахвяру: па-садысцку забіў загадчыцу вясковай крамы, мёртвую жанчыну згвалтаваў, абакраў магазін і знік. Пакуль міліцыя шукала забойцу, ён для поўнага шчасця абрабаваў буфет у Слонімскім раёне.

Пра жудаснае і нашумелае здарэнне ў Лазаўцах, пра тое, як брыгада брэсцкіх і івацэвіцкіх міліцыянераў затрымала забойцу ў адным з прытонаў Слоніма, "Газета для вас" летась расказала падрабязна.

Сяргей Літоўка — стрэляная птушка, казённыя нары асвоіў дасканала. Да розных тэрмінаў зняволення ён прыцягваўся ўжо тройчы.

І на гэты раз Феміда распарадзілася лёсам забойцы гуманна — 25 гадоў пазбаўлення волі. З іх тры гады злачынец правядзе ў турме, астатнія — у выпраўленчапрацоўнай калоніі строгага рэжыму.

Наўрад ці хто спадзяецца, што турма пазбавіць злачынцу яго воўчых інстынктаў. Але сёння наша грамадства ўжо падышло да разумення таго, што права адбіраць жыццё чалавека мае толькі Бог. Дарэчы, смяротная кара адменена ў пераважнай большасці цывілізаваных краін свету.

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК.*

## Нож как средство выяснения отношений

**БАРАНОВИЧИ.** Все чаще, если не сказать регулярно, в ход идет нож при выяснении отношений. Как правило, это "пьяное" выяснение отношений.

Двое пьют. Один на 30 лет старше другого. Тот, что помоложе, в ходе пьяной ссоры хватает нож и наносит удар прямо в сердце обидчику. Правда, П., 1931 г. р., остался жив.

С проникающим ножевым ранением с повреждением желудка был доставлен в больницу О., 1979 г. р. Так неосторожно "пообщалась" с ним сожительница Е., 1971 г. р.

С проникающим ножевым ранением с повреждением левой почки попал в больницу Н., 1966 г. р. Он ссорился с женой и несовершеннолетний сын не выдержал издевательств над матерью и таким вот образом утихомирил отца.

Зачем мы все это рассказываем вам, дорогие читатели? Поверьте, что не для того, чтобы посмаковать жареные факты. Читайте и делайте выводы. Неужели стакан водки дороже семейного благополучия?

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Падзяліся з дзяржавай

**ПРУЖАНЫ.** Не даюць спакою мясцовым валютчыкам супрацоўнікі міліцыі. За парушэнні валютных аперацый на іх ужо сёлета складзена сем адміністрацыйных пратаколаў. Сума накладзеных штрафаў склала 704 тысячы рублёў. Раённая казна папоўнілася 60 доларамі ЗША і 63734 расійскімі рублямі, канфіскаванымі ў парушальнікаў.

*Алесь САШЫН.*

## ЗАЯВА

**Брэсцкай абласной Рады грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне"**

**27 лютага 2000 года** — **г. Брэст**

Падзяляючы боль і трывогу за лёс нашай Радзімы, падтрымліваем ідэю правядзення вясною 2000 года Усебеларускага з'езда ("Народная воля" ад 25 лютага г. г.). Лічым, што правядзенне з'езда неабходнае і своечасовае. Усебеларускі з'езд будзе спрыяць кансалідацыі дэмакратычнай грамадскасці ў справе абароны Беларусі. Мы гатовыя прыняць чынны ўдзел у падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда і заклікаем грамадскасць Брэстчыны далучацца да ініцыятараў гэтай патрыятычнай справы.

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Пра Бога, царкву і службу ў арміі

***— "Газета для вас"? Дапамажыце даведацца, калі ласка, ці можа малады чалавек, які вырашыў прысвяціць сябе Богу, пазбегнуць службы ў арміі. Мне 17 гадоў, гэтае пытанне мяне вельмі хвалюе.***

***Сяргей ЗДАНОВІЧ, г. Бяроза.***

**На пытанне чытача адказвае благачынны Івацэвіцкай акругі протаіерэй Рыгор ПІЛІПЧУК:**

— На сённяшні дзень у нашай дзяржаве распрацаваны законы, паводле якіх службы ў арміі могуць пазбегнуць тыя, хто мае двух дзяцей або неадпаведнае службе здароўе. Па рэлігійнай адзнацы адтэрміноўка не даецца. Таму павінны прызывацца і тыя, хто сябе прысвяціў Богу, нават калі яны вучацца ў духоўнай семінарыі. Прызыву могуць пазбегнуць тыя, хто прыме пасля заканчэння семінарыі сан, стане свяшчэннікам.

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 2.03.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1600—2300 | 1000—1500 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 1000 | 1300 | 1200 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—850 | 700—900 | 500—770 | 660—750 |
| Яйкі | 400—500 | 400—540 | 500 | 440—460 |
| Малако (3 л) | 250 | 280 | 270 | 260 |
| Тварог | 350 | 400 | 350 | 360 |
| Масла сметанк. | 1100 | 1500—1800 | 1200 | 2000 |
| Цыбуля рэпч. | 250 | 200—220 | 200 | 180 |
| Капуста | 80—100 | 70—90 | 120 | 90 |
| Бульба | — | 100 | 100—120 | 85—100 |
| Морква | 200 | 250 | 150 | 120 |
| Буракі стал. | — | 60—100 | 100 | 80 |
| Яблыкі | 300—450 | 440—540 | 400—420 | 550—700 |
| Грушы | 950 | 1300 | 850 | 850 |
| Вінаград | 2500 | 2800 | 2900 | — |
| Грэцкія арэхі | 800—900 | 850 | 750 | 730 |
| Часнок | 1000 | 1300 | 2000 | 1100 |
| Лімоны | 1000 | 1000 | 1100 | 1200 |
| Апельсіны | 700 | 800—850 | 790 | 1000 |
| Бананы | 700 | 820—850 | 790 | 1000 |
| Мандарыны | 950—1300 | 920 | 990 | 960 |
| Грэчка | 600 | 700 | 650 | 660 |
| Макар. вырабы | 270—400 | 300—350 | 280—350 | 250—270 |
| Рыс | 430—450 | 460—560 | 440—480 | 450—480 |
| Манныя крупы | — | 370 | 390 | 350 |
| Проса | 250 | 300 | 250 | 300 |
| Цукар | 260 | 260—280 | 270 | 270—280 |
| Мёд | 2.400 | 2.400 | 2500 | 2400 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 870 | 920 | 875 | 900 | 870 | 920 | 860 | 880 |
| 1 дойчмарка | 440 | 460 | 420 | 450 | 440 | 460 | 430 | 440 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 | 28 | 30 |

# КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*НАДЕЖДА, по гороскопу — Рак. Мой кумир — Бритни Спирс. Свободное время уходит на общение с друзьями, на танцы. Я — человек коммуникабельный, общительный. Считаю, что если человек хороший, то у него много друзей и подруг. Часто хожу на дискотеку, люблю отдыхать на природе.*

*Хотелось бы, чтобы мой парень был красив, умный, богатый, с уважением относился к слабому полу. И, главное, чтобы у него были тёмно-карие умные глаза.*



*ЮЛЯ, по гороскопу — Близнецы. Люблю шумные компании и не люблю одиночество. Нравится готовить, стараюсь помогать маме с папой. С удовольствием занимаюсь физкультурой, особенно уважаю лёгкую атлетику. Мой кумир, кстати, спортсмен Павел Буре. Посещаю каждую дискотеку.*

*Нравятся весёлые, привлекательные, умные, сильные парни. А ещё хочу, чтобы у моего суженого были длинные ресницы и брови как у Брежнева.*



*ВИКТОРИЯ, по гороскопу — Весы. Свободное время посвящаю музыке, участвую в общественной жизни школы. Люблю петь. Исполняю песни из репертуара Алсу, "Демо", "Вирус". Нравится певец Энрике Иглесиас.*

*Нравятся мужчины высокого роста, брюнеты, с хорошим характером. Мой парень? Чтобы с ним можно было поделиться радостью и печалью. И, главное, чтобы глаза у него были добрые.*

*РЭАЛІІ ДНЯ*

# МАЛЮНКІ З НАТУРЫ

***Запрашэнне. Адрасат — чыноўнікі ад вышэйшай улады. Месца сустрэчы — магазін "Прадукты" па вул. Шаўчэнкі г. Івацэвічы. Час — панядзелак, серада, пятніца кожнага тыдня. Умова — не папярэджваць мясцовых вертыкальшчыкаў. Запэўніваю: у такім разе ўбачыце ўсё ў натуры, без прыхарошвання. Убачыце ўвачавідкі вынікі сваёй працы, свайго кіравання. Заадно прыхапіце з сабою журналістаў ад сённяшняга рэжыму, у тым ліку вядомых па ачмурэнню слухачоў Чайку, Дудзінава, Казіятку, Зімоўскага.***

Аперацыя "Ы", назавём так, пачынаецца. Чатыры — пяць гадзін раніцы. Дзе-нідзе блішчыць лямпачка. Цемра. Скуголіць вецер. Мільгае цень. Другі. Некалькі чалавек туляцца ад скразнякоў і марозу. Прастуджаны сіпаты голас рассякае цішыню: "Хто тут крайні?" "Я буду", — адгукваецца бабулька. Гаворка, як звычайна бывае, не атрымліваецца. Холад даймае.

Дзесяць гадзін. Прадаўшчыцы адчыняюць магазін. Парадзелая на досвітку чарга павялічваецца. Сёй-той мосціцца на прыхопленых з сабою стульчыках. Астатнія падпіраюць сцены магазіна. Вохкаюць. Пераступаюць з нагі на нагу.

Гадзін з пяць лічы ўжо аддзяжурылі. Нялёгка, вядома. Цяпер, пры дзённым святле, угледзімся, удзельнікі аперацыі, у твары гэтых людзей. Пабачыць на іх усмешку, праўда, рэдкасць. Хутчэй за ўсё смуткам апякуць іхнія вочы. Сцятыя, пабляклыя вусны. Запалыя маршчыністыя шчокі. Схуднелыя. Паніклыя. Нечым прыдаўленыя. Заматаныя ў вылінялыя хустачкі, апранутыя ў такія ж, дзесяцігоддзямі ношаныя, паліто, абутыя ў стаптаныя "чосанкі" ці боты, людзі цярпліва стаяць. Чакаюць. Некаму робіцца млосна. Выходзіць на вуліцу.

Бліжэй да абеду чарга ажыўляецца. Шумок: машына прыехала! Прадаўшчыцы з-за прылаўка падаюцца ў падсобку. Прыёмка тавараў. Гадзіна-другая. Частка нервуецца. Злуецца. Выкрыкі. Розныя. Сітуацыя на мяжы выбуху. Напал крыху зніжаецца: работніца роўным голасам чытае, што з прадуктаў прывезлі. Ізноў знікае. Пазней рослы грузчык (падсобны рабочы) без аніякай літасці зычным голасам аб'яўляе: абед. Гэта значыць: вымятайцеся з памяшкання. Продаж пачнецца пасля 3 гадзін дня, пасля абедзеннага перапынку.

Яшчэ гадзіну стаіць чарга. Ляпае клямка, і пачынаецца сапраўдны штурм дзвярэй. Таму руку прышчамляюць, у іншага гузік ад паліто адлятае... Дробязі. Галоўнае — дабегчы да прылаўка і заняць сваё месца. Тут як тут удзельнікі вайны. Не адзін і не два. Трывога: ці застанецца нешта чаргавікам. Хвіліны бягуць марудна. Праз прыглушаны шум голас прадаўшчыцы: "Лёгкага няма". "Як так, чалавек з пяць абслужылі", — чарга пачынае заводзіцца. Праз якіх з паўгадзіны зноў аб'ява: "Пячонка скончылася". "Гэта ўсяго, што прывезлі і што больш за гадзіну прымалі?" — ужо бушуе натоўп. "Вось капыты, семяннікі бугаёў", — прапаноўвае работніца прылаўка. Як гаворыцца, і смех і грэх. Як наладжаны гандаль у фірменным магазіне "Прадукты" Бярозаўскага мясакамбіната — тэма гэта патрабуе асобай увагі.

Сёй-той пакідае чаргу. Большасць робіць пакупкі. Вясковая жанчына вось набыла голых капытоў ажно поўную гаспадарчую сумку. "Нешта ж трэба есці. А што нам плацяць у калгасе, 2—3 мільёны, і то з вялікім спазненнем. Як хочаш, так і жыві," — апраўдваецца пакупніца.

На прылаўках не толькі капыты, семяннікі, хвасты... Бляшанкі тушонкі, пікантная мінская шэйка, ялавічная вэнджаніна, каўбасы розных гатункаў — шмат якасных прадуктаў. І адпаведныя цэннікі, звыш 2—3 мільёнаў за 1 кг. Што ж набывае чарга? Пераважная большасць купляе косці, ногі, субпрадукты.

Зойдзем у гэты ж магазін у іншы дзень. Тое ж самае. Такая ж чарга. Тая ж катэгорыя пакупнікоў (хоць выкалі вочы, а не ўбачыш тут аніводнага начальніка). Купля, як правіла, тых жа субпрадуктаў. Імі і харчуюцца. З тыдня ў тыдзень. З месяца ў месяц. Якасныя ж прадукты большасці не па кішэні. Не выключана, што гэта адна з прычын цяжкіх захворванняў і дачаснай смерці.

Сумная рэальнасць. Толькі не для беларускага тэлебачання і радыё, не для газет, якія абслугоўваюць цяперашні рэжым. Гэтыя сродкі масавай інфармацыі (СМІ) распавядаюць усё аб паляпшэнні жыцця, нейкай стабілізацыі эканомікі, аб своечасовай выплаце пенсій, зарплат. Адно праўда: пенсіі выплачваюць рэгулярна. Аб іншым СМІ замоўчваюць. І аб тым, што выплачаныя пенсіі, заробкі многіх грамадзян не пакрываюць мінімальных патрэб чалавека. Замяніць, скажам, паношанае паліто ці разбітыя боты, купіць халадзільнік ці тэлевізар не можа ні пенсіянер, ні той, каму выплачваюць у месяц 10—15 мільёнаў рублёў заробку. Праблема для многіх — набыццё лякарстваў. З асабістага вопыту: месяц пралячыцца — пенсія плакала. З чаго ж карміцца, плаціць за кватэру, набываць мыла?

Большая палова насельніцтва Рэспублікі Беларусь жыве за рысай беднасці. Так, міждзяржаўны камітэт па статыстыцы СНД правёў даследаванне, як змянілася пакупніцкая здольнасць грамадзян Садружнасці ў разліку на сярэднедушавы месячны даход у 1998 г. у параўнанні з 1991-м. Для Беларусі гэты паказчык выглядае наступным чынам. У 1991 годзе грамадзянін нашай рэспублікі мог на сваю месячную зарплату купіць: 312 кг пшанічнага хлеба; ці 403 кг бульбы; ці 718 л малака (вядома, тлустасць не 1,5%); ці 60 кг ялавічыны; ці 1739 штук яек. У 1998 годзе адной месячнай "получки" хапала: на 115 кг хлеба; ці на 233 кг бульбы; ці на 310 л малака; ці на 26 кг ялавічыны; ці на "амлет"з 877 яек... За гэты адрэзак часу прыкметна панізіўся валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва. Сярэднямесячная зарплата ў канверсаванай валюце ў постсацыялістычных краінах нашмат вышэй чым у нас: Польшча — 385$, Чэхія — 367,5, Эстонія — 311,5, Літва — 280, Латвія — 245, Балгарыя — 119, Украіна — 45,5, Беларусь — 35 (газета "Свободные новости", №№ 4—5 г.г.).

Бляклае становішча беларускай эканомікі вымушае многіх грамадзян РБ ехаць у іншыя краіны ў пошуках лепшай долі. А яшчэ нядаўна ўбівалі (дый цяпер робяць гэта) у нашыя галовы: бедныя, няшчасныя, затурканыя людзі за мяжой. У сапраўднасці мы — бедныя, няшчасныя, падманутыя, з працягнутай рукой чакаем гуманітаркі нібы міласці нябеснай. Хутка і купля хлеба надзённага можа стаць для многіх праблематычнай. Амаль сотню "зайцоў" бохан каштуе. Каля гэтага і 1 л малака паўтарапрацэнтнага. Паспрабуеш — аніякага смаку, вадзіца вадзічкай. А грошы ж выкладваем немалыя.

Выходзіць, сельская гаспадарка на ладан дыхае? Здаецца, так. Аднак прычыны правалу, як і ва ўсім, старанна абыходзяць. Свежы прыклад. Нарада (а дакладней партгасактыў), якая праходзіла ў Магілёве, правал у сельскай гаспадарцы летась спісала на дрэннае надвор'е. Такое ж яно было ў Польшчы, Літве. Дый землі там не лепшыя. А ў выніку — яны гатовыя прадаваць нам пшаніцу. За валюту, вядома.

Зніжаецца пагалоўе жывёлы. Машынна-трактарны парк не абнаўляецца. Старэе вёска. Міжволі ўзнікае горкае пытанне: што чакае нас, калі закончаць зямное існаванне цяперашнія калгаснікі? Не выключана, што і капытоў не будзе, і нават 1,5% малака. Не будзе да таго часу, пакуль сабе, сваёй сям'і дастойнае жыццё будзе забяспечваць адзіны на сяле чалавек — старшыня гаспадаркі. Перамены адбудуцца толькі тады, калі працаўнік калгаса стане гаспадаром і будзе атрымліваць не цяперашнія 2—3 мільёны (1 кг каўбасы) за працу, а столькі, каб жыць заможна і годна.

Як гэта зрабіць? Як выйсці з тупіка? Чакалася, што на той жа нарадзе ў Магілёве гаворка аб гэтым пойдзе. На жаль, канкрэтнага адказу так і не прагучала. Затое Лукашэнку хвалявала ўласная прэзідэнцкая кампанія, якая ўжо не за гарамі.

Чаму жывём бедна, няшчасна? На маё меркаванне, адна з прычын і гэта: у Беларусі няма, амаль няма нацыянальнай свядомай эліты. Ёсць старшыні калгасаў, дырэктары прадпрыемстваў, начальнікі розных рангаў, чыноўнікі... Але ж да болю, да вялікага жалю, пераважная большасць з іх паднімае рукі ў гору і гатова ўскочыць у шырокі рот краіны-суседкі Расіі. Ніхто не адмаўляе, што сябраваць, гандляваць з ёю трэба. І варта. Але ж здаваць уласную дзяржаву? Прыкра, балюча было глядзець, як на раённых нарадах летась начальнікі дружна ўздымалі рукі за стварэнне Саюзнай дзяржавы. Годнасцю беларуса гандлявалі.

Дзяржавай, незалежнасцю яе не гандлююць ні ў Літве, ні ў Эстоніі, ні ў Польшчы... Там ёсць сапраўдная нацыянальная эліта, для якой незалежнасць дзяржавы — гэта святое. Незалежнасць там не прадаецца ні за тоны нафты, ні за кілаграм каўбасы. Нацыянальна свядомыя грамадзяне гэтых краін не прагінаюцца перад Расіяй, а, мабілізаваўшы ўсе сілы і веды, працуюць, працуюць, працуюць. На карысць сваіх незалежных дзяржаў, свайго народа. Вынікі — відавочныя.

*Ніна ЧЫКІТА,*
*жыхарка г. Івацэвічы.*

ЗАЩИТНИКИ ОТЕЧЕСТВА

# НЕБО И ЗЕМЛЯ



*(Продолжение. Начало в №№ 7, 8).*

### 3. ИЗ ДНЕВНИКА МАШИ ВОЛОБУЕВОЙ

*Любая задача решается легче, если её делаешь серьезно.* **(Заповедь летчика-истребителя и обслуживающего самолёт в годы войны).**

В комнате боевой славы военных летчиков собран богатый материал о прошлом полка. Меня удивило то, что на стендах очень много пожелтевших фотографий, на которых запечатлены девушки. Мой гид майор В. Непарко, человек очень разговорчивый и профессионал в своем деле, рассказывал о том, что наравне с военными летчиками все тяготы войны переносили девушки, которые обслуживали технику — снаряжали оружие, готовили самолёты к боевому вылету. Они, девочки из Кугульты, что в Ставропольском крае, после школы младших авиационных специалистов прошли с полком от города Грозный до Кенигсберга, закончив военную службу в 1947 году. Им повезло: все они вернулись домой — Раиса Дядькова, Раиса Еременко, Ольга Минаенко, Маша Волобуева... Как они помогали лётчикам? О чём мечтали? Через долгие годы сестра Маши Волобуевой обнаружила старенький дневник военных лет и передала его в газету "Ставропольская правда", где в апреле 1980 года были опубликованы две статьи под заголовком "Личный дневник сержанта", положенные в основу рассказа бывшего лётчика полка Б. Анцуха "Страницы из дневника сержанта Маши Волобуевой".

Вниманию читателей предлагаются всего лишь немногие записи, сделанные Машиной рукой в те далёкие суровые военные годы.

XXX

**4 ноября 1942 года.** Видела такой чудесный сон!

Будто я дома. Помогаю маме убирать. Потом сидела на своём любимом месте — на лавочке возле печи и просила маму: "Давай ужинать, каши хочется". Какая же мама была красивая! Улыбающаяся, быстрая, такая родная. Я спала, и вдруг тревога, звонок, подъем и война вокруг.

**5 ноября.** Сегодняшний день какой-то особенный. Перед обедом на проверке начальник нашей школы сообщил нам приятную новость, что на днях нас должны выпустить. Мы даже захлопали в ладоши, а за обедом начали веселиться, и, как дети, баловаться. И всё-таки я думала: скоро настоящий фронт, а это, наверное, страшно. Но долой пессимизм! Больше жизни.

**9 ноября.** Ходила в дозор. Потом занималась по стрелковому вооружению, но после бессонной ночи очень хотелось спать.

**21 ноября.** Эх, занесла же нас судьба (на Кавказ — **ред.**). А у меня беда: мои ботинки не выдержали местной грязи, сначала дали трещины, а потом совсем порвались. Других нет, я сижу в казарме.

**26 ноября.** Ура! Получила ботинки, бывшие в употреблении. Они такие большие, что ходить неудобно. Пошла в наряд. Ночь была лунная, холодная, но прошла спокойно. Когда заснула, увидела снова маму, хату. Сейчас особенно понимаю, что именно пытаются отнять у нас фашисты. Не отдадим!

**3 марта 1943 года.** Все некогда браться за свой дневник. Но сегодня запишу хоть что-нибудь. Все говорят, что у меня переменился характер. Я стала спокойной и рассудительной. Меня в полку все называют Машей и, по-моему, даже некоторые командиры не знают фамилии. Первым меня стал так называть Сашка Чернышёв, пилот. Он мне объяснился в своих чувствах, но я, конечно, не поверила. Хотя он парень и хороший, но лучше подождать, пока кончится война и тогда делать выводы. Но я своими мыслями ни с кем не поделилась. Только с Раей Еременко могу поделиться тайнами. Нам с ней нравится старшина Будников. Хороший прямой человек. Но слишком строг.

**13 марта.** Погиб Саша. Какой парень! Что делает война! Его самолет упал на территории немцев. Даже, если бы он выбросился, все равно не сумел бы спастись. Ребята видели: он не выбросился. Только попрощался по радио.

**12 апреля.** Умышленно не пишу в дневнике ничего о боевых действиях. Понимаю, что всякое может случиться, и дневник может попасть в руки кого угодно, даже врагу. Поэтому я не пишу ни о полетах, ни о потерях, хотя есть то и другое. И мы каждый раз плачем. И становимся злее. Сегодня ночью написала письмо домой. Я так хочу увидеть почерк мамы. И снова написать о ней стихи.

**12 апреля.** У меня иногда бывает какое-то дурное предчувствие, что я не проживу долго. Я по-прежнему сильна волею и духом. Я терпелива в горе и вынослива в любой самой тяжелой работе. И сознавая это, думаю: как же все-таки хорошо жить на земле!

**...2 марта 1947 года.** Весь день я провела дома. Подумать только, обнаружила свой старый дневник! Странное чувство овладело мною. Я вела его, оказывается, в самые легкие дни войны, которые мне казались трудными. Но что было потом. Потом я не смогла даже продолжить свои записи. Воевала, сражалась. И вот пришла домой! Весь сегодняшний день просидела дома. Много внимания уделяла маленькому Виталику и Люсеньке — детям сестры Нины. Подумать только, меня сейчас особенно влечет к малышам. Наверное, всё-таки это правда, каждая женщина должна быть матерью.

XXX

...Да, хорошо жить на земле, мечтать о детях, семье. Вернувшись с фронта, Маша пришла в райком партии и стала работать пропагандистом. Потом перешла на работу в редакцию районной газеты, затем учёба в Центральной комсомольской школе, работа в редакции краевой газеты. Маша Волобуева трагически погибла при исполнении служебных обязанностей, прожив короткую, но яркую жизнь. Память о ней хранят военные летчики 927 истребительного авиационного полка и те, кто служит на базе в эти дни.

*Алексей ГАНЧУК.*
*Фото автора.*
*г. Береза.*
*(Продолжение следует).*

АДДАНЫЯ СПРАВЕ

# "МАМАЧКА, МЫ ЦЯБЕ ЛЮБІМ"

***Гэтыя словы адрасаваны Любові Мікалаеўне Валуевай. Жанчыне па-добраму неспакойнай, чулай і сардэчнай. Яна працуе намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Целяханскай школы-інтэрната. Наш карэспандэнт сустрэўся з Л. М. Валуевай. Вось яе кароткі аповед.***

Я родам з Аброва. Маці Юлія Спірыдонаўна і зараз жыве там. Нас, дзяцей, было пяцёра ў сям'і — тры сястры і два браты. Усе ўжо дарослыя.

Яшчэ ў школе марыла стаць настаўніцай пачатковых класаў. Мая мара здзейснілася — я закончыла педвучылішча ў г. Орша. Чаму ў Оршы? Там жыла наша бабуля, вось туды я і паехала. Адразу пасля педвучылішча паступіла ў Беларускі дзяржуніверсітэт на філалагічны факультэт (рускае аддзяленне). На стацыянары займалася тры гады. Заканчвала ўжо завочна, бо выйшла замуж. Міхаіл, муж мой, родам з Оршы.

Сваю педагагічную працу пачынала на Аршаншчыне ў Сурмінскай школе-інтэрнаце. Тры гады адпрацавала там. Потым вырашылі перабрацца бліжэй да маіх бацькоў у Івацэвіцкі раён. Знайшлі жыллё і месца працы ў Целяханах. Уладкавалася выхавальніцай у дзетсадку лыжнай фабрыкі. Тры гады аддала гэтай рабоце і перайшла ў школу-інтэрнат, дзе якраз быў патрэбен настаўнік пачатковых класаў. Два выпускі зрабіла. І вось новая праца — намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце. Ужо шэсць гадоў на гэтай пасадзе.

Работа з дзецьмі для мяне была і застаецца самым галоўным заняткам. Праўда, як прадстаўніку адміністрацыі, прыходзіцца займацца і такой работай, як складаннем раскладу ўрокаў, розных планаў і школьных мерапрыемстваў, наведваць і ацэньваць урокі сваіх калег. Гэта ўваходзіць у мае непасрэдныя абавязкі.

Працую і як мовавед. Выкладаю рускую мову і літаратуру.

Колькі сябе помню, заўсёды была ў самых дружалюбных адносінах са сваімі выхаванцамі. У школе-інтэрнаце гэтыя адносіны больш цесныя і яшчэ больш прыязныя. Нашы вучні ў большасці з так званых цяжкіх сем'яў, з няпоўных, словам, дзеці, якія мала або зусім не адчувалі бацькоўскіх клопатаў і ласкі. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі вельмі ранімыя. Адно слова, сказанае неўпапад, можа нанесці вялікую траўму дзіцяці. Таму кожны з нашых педагогаў і выхавацеляў — гэта людзі неардынарныя, у якіх адкрытая душа і шчырае сэрца.



*Любоў Мікалаеўна Валуева. Фота Аляксея ГАНЧУКА.*

Нашы выхаванцы, адчуваючы клопаты і ўвагу, адклікаюцца тым жа. Ад гэтага заўсёды прыемна і радасна на душы, бо бачыш, што твая праца не прападае дарма і прыносіць добры плён.

Успамінаецца 1993 год. У маю сям'ю нечакана прыйшла бяда. У Целяханскім БМУ, дзе працаваў мой муж, здарылася аварыя. Парвала трубы і гарачая вада проста хлынула на людзей. 85 працэнтаў цела майго мужа Міхаіла аказалася апараным. У Брэсцкай бальніцы, куды адвезлі яго, пачалося змаганне за жыццё. 50 дзён і начэй я дзяжурыла ля ложка Міхаіла. Колькі каштавала гэта нерваў, наогул здароўя!

А між тым у Целяханах у маім доме заставаліся двое малых дзяцей. Вучні інтэрната Ваня Галавацкі і Сяргей Даміно да прыезду маіх родзічаў не толькі даглядалі маіх дзяцей, але і ўпраўляліся па гаспадарцы. Прыходзілі на дапамогу і іншыя выхаванцы.

Майго мужа выратаваць не ўдалося. Канешне, гэта стала вялікай сямейнай трагедыяй. Але мяне не пакінулі ў бядзе ні педагогі, ні выхаванцы. Чалавечае гора не пакінула нікога абыякавым. Мае вучні пішуць мне лісты, тэлефануюць, прапануюць сваю дапамогу.

Напрыклад, Саша Капуза, наш былы выпускнік, працуе даглядчыкам жывёлы на ферме ў адным з калгасаў Кобрынскага раёна, зарабіў пяць адгулаў (пяць дзён) і восенню мінулага года прыехаў да мяне.

"Мамачка, не крыўдуй на мяне, — сказаў ён, пераступаючы парог кватэры. — Я прыехаў дапамагчы капаць бульбу. А можа набяжыць яшчэ якая-небудзь работа?"

"Сашка, што ты? — сказала я. — Мы ўжо бульбу выкапалі. Можа пагасцюеш у нас?"

"Знайду сабе работу", — сказаў ён.

І, праўда, знайшоў. У гаспадарцы заўсёды яшчэ штосьці трэба зрабіць, тое-сёе падрамантаваць.

Ігар Падалякін, наш выпускнік, ужо адслужыў у арміі, працуе на будоўлі ў Кобрыне. Ён прыязджае да мяне як да сваёй маці. У яго няма нікога з родных. Ён жа аднойчы мне напісаў так: "Вы добра пакаралі Селюжыцкага ў школе, і ён зараз не курыць, а мяне — не. Я, на жаль, працягваю курыць..."

Гаворачы пра сваю педагагічную працу і жыццё, хачу падзяліцца наступным назіраннем, звязаным з лічбай "тры".

Тры гады я вучылася ў БДУ, потым па тры гады працавала спярша ў школе-інтэрнаце і дзіцячым садку, а яшчэ тры гады вучылася на лагапеда. І, нарэшце, бяда прыйшла ў 1993 годзе (апошняя лічба "тры"). Першыя чатыры тройкі былі для мяне і для сям'і даволі ўдалымі, а вось пятая — прынесла няшчасце. Можа гэта простае супадзенне? Ці я штосьці не разумею?

Няўжо лічба "тры" мае нейкую магічную сілу? Адказаць на такія пытанні, па ўсім відаць, немагчыма. Я, думаю, трэба верыць толькі ў лепшае, тады ўсё дрэннае павінна адступіць.

Але ж вярнуся да нашых выхаванцаў. Зараз іх у школе 209. Гэта больш, чым патрэбна па норме. Усе яны — ахвяры сямейнага неўладкавання, з пакалечанымі душамі, вылечыць якія здараецца зусім немагчыма. Аднак увесь калектыў (а ён у большасці жаночы) аддае дзецям усе свае веды, усё сваё мацярынскае цяпло...

І як узнагароду за сваю працу, вельмі прыемна чуць у тэлефоннай трубцы і чытаць у пісьмах былых вучняў шчырыя словы: "Мамачка, мы цябе любім. Мы па-ранейшаму з табой. Мы цябе не забываем і не забудзем..."

Таму хочацца працаваць, бо ведаеш, што твае намаганні і старанне вяртаюць да паўнакроўнага жыцця маладых людзей, сеюць у іх душах толькі разумнае і добрае.

Напярэдадні 8 Сакавіка віншую ўсіх сваіх калег-жанчын са святам, жадаю ім здароўя, дабрабыту і, канешне, добрых вучняў.

*Запісаў Святаслаў КАЖАДУБ.*
*г. п. Целяханы Івацэвіцкага раёна.*

## КРЕПКА СЕМЬЯ ЛЮБОВЬЮ

Андрей намеревался жениться и, как подобает настоящему мужчине, строил дом. На дворе стоял январь, на 29-е была назначена свадьба. А числа десятого Андрей с отцом крыли крышу. Жених поскользнулся, упал и сломал ногу. Приговор врача был неумолим: гипс на три недели.

— Что Вы, у меня же свадьба! — умолял Андрей, и доктор согласился снять гипс раньше срока, например, во вторник. А в пятницу — свадьба. И Андрей ходить практически не может.

— В загс так и пришел — с палочкой. Женщина, которая нас расписывала, смотрела на Лену с такой жалостью: за инвалида, бедняга, выходит, — смеялся Андрей. А Лена самым серьезным образом рассказывает о Божьей благодати, сошедшей на них как раз тогда, когда было необходимо.

Летом 1993-го Андрей Петлицкий был в Лурде — местечко во Франции, где 14-летней девочке явилась Матерь Божия. На этом месте сейчас святой источник. Инвалиды и больные со всего света съезжаются сюда. Те, кто верит глубоко и искренне, — исцеляются. Андрей тоже привез воду из источника. Полгода о ней не вспоминал. А тут такой случай — вода пригодилась. В молитвах Андрей просил Господа о помощи и пообещал пожертвовать ему сумму, которая окажется у него на момент исцеления. И, что вы думаете, к венчанию Андрей расстался с палочкой и даже смог танцевать!

— Понес в храм 40 долларов, священник был немало удивлен, но я должен был исполнить свое обещание, данное Всевышнему, — вспоминает Андрей.

Вообще-то герой нашего повествования должен Господу гораздо больше и не только за исцеление: не где-нибудь, а именно в храме он встретил свою суженую — органистку Елену — жену, каких поискать, и мать двоих его сыновей — трехлетнего Яна и Франтишка, которому нет и полутора лет.

Лена серьезным образом перешагнула порог католической церкви в 19 лет, хотя и до этого времени жила с Богом в душе. Но возраст позволил осознать всю глубину веры, проникнуться ею. Впечатлительная девушка с музыкально-педагогическим образованием подумывала даже о том, чтобы уйти в монастырь, но тут в ее жизни появился Андрей, и начались душевные мытарства: "Моя жизненная дорога к Богу лежала через монастырь, а с другой стороны, я так люблю детей, так почему я должна остаться без них?".

Молодые год проверяли свои чувства. И вот... "Беру тебя в супруги... обещаю любовь, верность и супружеское уважение... до смерти".

Семья Петлицких — это современная добропорядочная семья. Тех, кому этот подбор слов показался искусственным, спешу заверить: в этом мире есть еще счастливые семьи! И одна из них — перед вами. Андрей и Лена и сами пожимали плечами, не знали, что о себе рассказать. Им хотелось говорить о Боге, о храме, об отце Богдане — настоятеле их храма, о молитвенной группе, которая собирается у них дома, о семейном храме — только не о себе.

— А что о себе? Мы такие, как все, — вторили друг другу супруги, а я пыталась выведать секрет семейного счастья. И никаких сомнений по поводу того, что в этом доме счастье прописано, у меня ни на миг не возникало.



*Андрей и Елена Петлицкие венчаются.*

— Вообще-то мне повезло в жизни! — наконец-таки призналась Елена. — Добрый, заботливый муж, здоровые дети, прекрасные свёкор со свекровью — Станислава Ивановна и Викентий Иосифович, — без помощи которых нам трудно было бы жить. И, знаете, Господь нас не покидает. Я прямо-таки чувствую, как он нас хранит и направляет по верной дороге. Все вокруг жалуются на жизнь, на мужей, а мне просто грех это делать. Андрей — очень человечный, с ним легко и просто, мы одной веры. А это делает нашу жизнь, с одной стороны, насыщенной, с другой — менее проблематичной. К тому же мой муж ведет здоровый образ жизни, даже в 15-градусный мороз обливается холодной водой, не употребляет ни капли алкоголя. Он — частный предприниматель. И честный предприниматель.

Под стать папе и старший сын. Ян ходит в старшую группу детского сада, хотя по возрасту ему положена средняя. Очень серьезный, со взрослыми суждениями человек. Кто такой Бог, знает давно и с любовью к нему относится.

Петлицкие семью не планируют — как Бог даст. Между прочим, демографическая наука отмечает, что народ, в котором семьи имеют двоих детей, стареет и вымирает, троих — развивается. Композитор Гайдн был 12-м ребенком в семье, Франклин — 17-м, а святая Екатерина из Сиены — 25-м!.

Вспомните слова святого апостола Павла о любви: "Любовь долго терпит, милосердствует, любовь не завидует, любовь не превозносится, а сорадуется истине, все покрывает, всему верит, все переносит" (1 Кор. 13, 4-7). В семье Петлицких царят любовь и искренность по отношению не только друг к другу, но и к окружающим.

У меня в руках альбом, где ведется хроника собраний молодежной молитвенной группы "Едины в духе", которая собирается у Петлицких. 15—20 молодых людей, живущих в ладу и согласии с Богом, с удовольствием приходят домой к ребятам, им всегда есть о чем поговорить: о грехе и покаянии, исповеди, о взаимных христианских обязанностях детей и родителей. С каким интересом читаются ответы на анкету: "Трудно или легко жить с Богом?" Молитвенная группа — это не развлечение, молитвенная группа — это большой душевный труд, во время которого молодежь постигает истинные христианские ценности: добродетель, любовь к ближнему, умение сострадать. Знакомство с Библией, Катехизисом, историей католичества помогает молодежи в реальной жизни. Андрей и Лена уверены: из их подопечных вырастут достойные люди. Знаком ребятам и реальный физический труд. Все без исключения помогали в строительстве костела в Восточном микрорайоне.

*Галина СТРОЦКАЯ.*
*г. Барановичи.*

## Православный календарь на март 2000 г.

**4** — Вселенская родительская (мясопустная) суббота. Память всех от века усопших православных христиан, отец и братий наших. Прмч. Корнилия Псково-Печерского (1570).

**5** — Неделя мясопустная, о Страшном Суде. Заговенье на мясо.

**6** — Седмица сырная (масленица) — сплошная (в среду и пятницу разрешается вкушение яиц, масла, сыра, молока).

**8** — Первое (IV) и второе (452) обретение главы Иоанна Предтечи.

**12** — Неделя сыропустная. Воспоминание Адамова изгнания. Прощеное воскресенье. Заговенье на Великий пост.

**13** — Начало Великого поста (13 марта — 29 апреля).

**14** — Прмч. Евдокии (ок. 160—170).

**15** — Свт. Арсения, еп. Тверского (1409). Иконы Божией Матери именуемой "Державная" (1917).

**17** — Блгв. кн. Даниила Московского (1303).

**18** — Вмч. Феодора Тирона (ок. 306) — переходящее празднование в субботу 1-ой седмицы Великого поста. Обретение мощей блгвв.кнн. Феодора Смоленского и чад его Давида и Константина, Ярославских чудотворцев (1463). Иконы Божией Матери, именуемой "Воспитание".

**19** — Неделя 1-ая Великого поста. Торжество Православия. Мчч. 42-х во Амморее: Константина, Аетия, Феофила, Феодора, Мелиссена и прочих с ними (ок. 845). Обретение Честного Креста и гвоздей св. царицею Еленою во Иерусалиме (326). Икон Божией Матери: Ченстоховской, Шестоковской, "Благодатное Небо" и Кипрской в с. Стромыни Моск. обл.

**20** — Иконы Божией Матери "Споручница грешных" (1843).

**21** — Иконы Божией Матери "Знамение" Курской (1898).

**22** — 40 мучч., в Севастийском озере мучившихся (ок. 320).

**25** — Свт. Григория Двоеслова, папы Римского (604). Лиддской, Нерукотворной (на столпе), иконы Божией Матери (I). Поминовение усопших.

**26** — Свт. Григория Паламы, архиеп. Фессалонитского. Собор всех преп. отцев Киево-Печерских.

**27** — Блгв. вел. кн. Ростислава-Михаила (1167). Феодоровской иконы Божией матери (1613).

**30** — Прп. Алексия, человека Божия (411).

## Очищение ребенка

Возьмите за правило ежедневно после детсада, школы либо вечером проводить этот ритуал, который помогает "смыть" с ребенка всю "энергетическую грязь", приставшую к нему за день. Пустите холодную воду в ванной комнате и умывайте ею ребенка, приговаривая: "С утицы водица, с младенца лихотица, от кого взялось, тому передалось. Кто с бедою корючею, тому слезою горючею".

Заговор нужно прочесть трижды.

Затем сварите вкрутую яйцо. Очистите его от скорлупы. Катайте яйцо в области солнечного сплетения ребенка одиннадцать раз по часовой стрелке, одиннадцать раз против. И так трижды. Итого 66 раз. Яйцо заверните в бумагу и закопайте либо сожгите.

## Наказание за страсть к накопительству

***Богатство, бедность, болезнь, здоровье — это все дары Божии, таланты, которые даются Богом для употребления их во благо. По неведомому нам Промыслу Божию одни люди богаты, другие бедны, одни здоровы, другие больны... Но в любом состоянии человек может жить благочестиво. Любым данным ему талантом он может служить Богу. И если свой талант человек употребляет во зло, то он — "негодный раб" и не наследует блаженства.***

Порой погоня за новой мебелью, новой маркой автомобиля, шикарной шубой истощает целые семейства и приводит к их распаду, полной деградации. Я 20 лет жила в Южном городке и видела это воочию. Сначала мы жили на общих кухнях, с общими интересами, помогали взаимно воспитывать детей. Жили скромно, если не сказать бедно. Но вот некоторые стали привозить заграничные гарнитуры, машины, ковры, хрусталь. Полы стали покрывать лаком, и детей, чтобы не испортили полы и обстановку, попросту выставляли из квартир. Те облюбовали "танковые горы", доты на Волынке и стали собираться в подъездах и подвалах. В школе происходили разборки между детьми, приходилось на вечера приглашать родителей. Только в нашей части за 3,5 года распалось 10 семей... Моя соседка по общей кухне возмутилась, что у меня в единственной комнате висела самодельная люстра из камышинок, и сказала: "Дам вам взаймы сколько угодно, только купите себе что-нибудь поприличнее". Когда через несколько лет она вернулась из-за границы (второй заезд), сына ее я, как завуч школы, наказывала за то, что он на перемене проверял карманы пальто своих друзей-одноклассников. Семьи фактически уже не существовало.

Позже появилась тяга к коттеджам и особнякам...

Я убедилась, что богатство не приносит счастья, но убедить своего мужа в этом не сумела...

Вот как этот процесс описал духовник Пюхтицкой обители о. Петр (Серегин): "Постоянная погоня за внешним благополучием поставила нас в условия беспрерывного соревнования. Стремление к уюту, материальной обеспеченности, успеху в делах вовлекают нас в соревнование. Желанием поддержать только свое внешнее достоинство мы питаем свою гордость — причину всех греховных зол и падений". Люди становятся одержимыми страстью накопительства, забывая, что земные блага скоропреходящи и неудержимы, тогда как блага небесные вечны, бесконечны и неотъемлемы. Иногда такая одержимость изумляет своей чудовищностью.

> ***Счастье так мало зависит от материальных благ и вещей, что тот, для кого эти вещи сделались безразличными, пожалуй, ближе всего к тайне счастья.***
>
> ***М. ЭШЕНБАХ.***

Приведу пример из жизни Бреста. В 60-х годах строили путепровод и переселили двух стариков из домика без удобств в благоустроенную квартиру, с трудом преодолев их сопротивление. Когда стали разбивать стены, обнаружилось, что под обоями наклеены за один конец купюры разных времен — еще сталинских, дореформенных, и прочих — на очень большую сумму. Разве это не сумасшествие? Не одержимость?

Богатство само по себе не грех, только не надо к нему прикрепляться душой. Оно дается Богом человеку для того, чтобы с помощью своего богатства благотворить, помогать ближним и обществу. Мы с благодарностью вспоминаем богатых братьев Третьяковых, имя которых носит Государственная художественная галерея. Они поддержали многих бедных талантливых художников, покупали картины и сохранили их для будущих поколений. Сколько церквей, школ, дорог и общественных зданий построили богатые люди в прошлом! Нет, они не строили "тяп-ляп" (пятилетку в четыре года) — строили десятилетиями, добротно. И все это было от души, во славу Божию.

В поисках спонсоров на свой третий сборник стихов я встретилась с богатыми людьми, которые меня поразили своей щедростью. Низкий поклон им от меня. И, главное, я по-другому стала смотреть на этих людей. Они работают буквально по 20 часов в сутки и не жалеют денег на Церковь, приюты, на все дела во славу Божию. Они умеют распоряжаться своим богатством.

Мы должны помнить, что за все надо платить, что существует закон возмездия, а поэтому стараться, чтобы ни капли зла не вошло в плоть и кровь наших потомков.

"Всеблагий Господи! Помоги нам презирать все скоропреходящее и пещися о едином на потребу спасения душ наших!" Пусть на молитву оптинского старца Амвросия отзовется каждое сердце...

*Галина ГОРДЕЕВА.*
*г. Брест.*

